# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 18

двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932 год выданьня 4




## „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА"—у КОЖНУЮ ШКОЛУ

### ПАДПІСАЛІСЯ НА 50 ЭКЗЭМПЛЯРАЎ

Вакелеўская ШКМ, Капыльскага раёну, першая ўключылася ў месячнік юнацкага і дзіцячага друку, абвешчаны ЦК ЛКСМБ.

У школе праведзены гутаркі аб дзіцячым і юнацкім друку. Вылучаны ўпаўнаважаныя па збору падпіскі.

У выніку гэтай работы — 50 вучняў падпісаліся на часопісь „Іскры Ільліча".

З. Б.

### КОЖНЫ ВУЧАНЬ БУДЗЕ МЕЦЬ СВАЮ ЧАСОПІСЬ

2-я група 39-й Менскай ФЗС выпісала 52 экзэмпляры часопісі „Іскры Ільліча". Цяпер кожны вучань будзе мець сваю часопісь.

### УСЕ ШКОЛЫ І ВУЧНІ ПАВІННЫ МЕЦЬ ЧАСОПІСЬ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА"

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 3 месяцы — 90 кап.
„ 6 „ 1 р. 80 „
„ 1 год 3 „ 60 „

Падпіску здавайце тольні на пошту і лістаносцам

## ЗЬМЕСТ:



Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.







*На фатаграфіі—пісьменьнік МАКСІМ ГОРКІ са сваімі ўнукамі*

**25-га верасьня споўнілася 40 гадоў з таго часу, як пачаў сваю літаратурную работу пісьменьнік Максім Горкі.**

**Імя і творы Горкага вядомы працоўным усяго сьвету Максім Горкі самы старэйшы і самы выдатны пралетарскі пісьменьнік.**

**Яго мастацкія творы і артыкулы заклікаюць усіх працоўных на змаганьне за новае жыцьцё, за пабудову сацыялізму ў нашай краіне, за сусьветны Кастрычнік.**

**Шчырае прывітаньне Максіму Горкаму, пралетарскаму пісьменьніку і барацьбіту за рабочую справу, ад дзяцей Савецкай Беларусі!**

# Сьвята пралетарскіх Дзяцей

У гэтым годзе з 2-га па 9-е кастрычніка мы будзем праводзіць 12-ты Міжнародны дзіцячы тыдзень.

Цяжка жывецца дзецям працоўных замежных краін. Голад і галеча гоніць мільёны дзяцей на фабрыкі і заводы. Там яны працуюць да астатняй сілы, па 12 і болей гадзін на суткі. Працуюць вельмі часта толькі за галодную яду.

Гэтыя маленькія пралетары ня могуць вучыцца. Бацькі іх беспрацоўныя.

Сотні тысяч дзяцей гінуць ад голаду.

У міжнародны свой тыдзень гэтыя галодныя, абяздоленыя дзеці выйдуць на вуліцы, плошчы з плякатамі, сьцягамі. Выйдуць, каб дружна, на ўвесь голас, заявіць сваю гатоўнасьць змагацца разам з старэйшымі супроць буржуазіі, за волю, за савецкую ўладу.

Мы сустракаем і праводзім сваё сьвята ў вольнай краіне — бацькаўшчыне сусьветнага пралетарыяту. Усе нашы дзеці вучацца ў школах. Яны дапамагаюць у рабоце старэйшым і рыхтуюцца стаць добрымі будаўнікамі сацыялізму. А каб стаць такімі, трэба многа і старэнна вучыцца.







У час свайго сьвята ўсе дзеці павінны праверыць сябе, ці сапраўды добра яны вучацца? Ці добра выконваюць яны пастанову ЦК партыі аб школе?

Усе дзеці павінны заўсёды помніць аб сваіх замежных братох і сёстрах. Кожная школа, атрад, акцябрацкая група павінны вывучаць жыцьцё замежных дзяцей, трымаць з імі сувязь, дапамагаць ім у змаганьні за волю.

# Партфэль

І. Аўраменка

АПАВЯДАНЬНЕ КАМУНІСТА

Гэта было ў Варшаве.

Арганізацыя даручыла мне завесьці ў адну вёску партфэль з камуністычнымі лістоўкамі.

Я сабраўся ехаць пад відам чыноўніка.

Але... На вакзале мяне выдаў паліцыі якісьці шпіён, і мяне арыштавалі. Я ішоў вуліцаю паміж двума паліцэйскімі. У левай руцэ быў партфэль. Я ведаў, што гэты партфэль наробіць мне бяды. Я гатоў быў сунуць яго ў любую шчыліну, дзірку, адным словам, куды-небудзь.

Хацеў нават як-небудзь палажыць яго на тратуар. Але ведаў, што адразу заўважаць, бо ззаду бегла многа дзяцей.

Я залажыў рукі за сьпіну. Партфэль целяпаўся.

Раптам... я чую, што нехта паціханьку зьнімае партфэль з мае рукі. Я з ахвотаю разьняў пальцы. Партфэль зьнік.

У маіх дакумантах на імя чыноўніка Бэрнца не знайшлі нічога падазрэннага і мяне выпусьцілі ў той-жа вечар.

Не пасьпеў я адыйсьціся і паўкілёмэтра ад будынку паліцыі, як мяне дагнаў хлопчык гадоў трынаццаці і аддаў мне мой партфэль.

— Я ведаў, што вы наш, — сказаў хлопчык, — бо вы ўчора выступалі на мітынгу за Савецкі Саюз. А што было ў партфэлі, я сам здагадаўся.

Ну, а цяпер давайце пазнаёмімся. Я—піанэр Стась Млішэк.



—

# На варце



Верш
Я. Васілеўскага

Крок за крокам
На дазоры
Ходзіць вартавы.
Слухам вострым
Ловіць шорах
Лесу і травы.

Трэба пільнасьць,
Асьцярожней
Кожны рух і крок...

І рука
Заўжды трывожна
Мацае курок.

Белы „ожал“
Над сусьветам
Ўзьняў драпежны крык
Прагна пяліць
На саветы
Крыважэрны зірк.

Толькі пільна
За мяжою
Сочыць наш дазор,
І узброенай рукою
Дасьць паном
Адпор!



ПЕРШЫ ДЗЕНЬ НАВІЧКА.
*Маці праводзіць у школу.*

# Школьнік

**Рана ўстаў Мікола —**
**Дзе-ж тут будзе**
**спацца?—**
**Трэба яму ў школу**
**Скоранька зьбірацца.**

**Новыя навіны**
**Там яму раскажуць**
**Пра жывёл, расьліны**
**І краіну нашу.**

**Любіць ён вучобу,**
**Да навук ахвочы.**
**Будзе з яго добры**
**Будаўнік—рабочы.**

**А. Я.**



*Першая навука*
*ў школе.*

# ліст нямецкіх піанэраў

## будзем мацаваць сувязь з замежнымі дзецьмі

Летась на сьвяткаваньне Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Менск прыяжджала дэлегацыя чырвоных франтавікоў Нямеччыны.

Піанэры базы пры друкарні імя Сталіна запрасілі дэлегатаў на схед у 4-ю фабрычна-заводзкую сямігодку. Дэлегаты з ахвотаю прышлі ў школу. Сярод дэлегатаў быў важаты піанэрскага атраду з гор. Аўэрбаху (Саксонія).

На гэтай сустрэчы заключылі сацыялістычны дагавор піанэры базы пры друкарні імя Сталіна з адным піанэрскім атрадам гор. Аўэрбаху. Нашы піанэры перадалі тады нямецкім 60 піанэрскіх гальштукаў.



САКРАТАР ЦК КАМПАРТЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ тав. ТЭЛЬМАН. ГЭТУЮ ФАТАГРАФІЮ ПРЫСЛАЛІ ПІАНЭРЫ гор. АЎЭРБАХУ ПІАНЭРАМ БАЗЫ ПРЫ ДРУКАРНІ ІМЯ СТАЛІНА

Тады-ж умовіліся пісаць адны другім пра сваё жыцьцё.

Прайшоў некаторы час і вось што адказалі піанэры з гор. Аўэрбаху піанэрам базы пры друкарні імя Сталіна (Менск).

**Дарагія таварышы!**

*Мы атрымалі ваш ліст. Нашы піанэры з вялікаю ахвотаю сустрэлі вашу прапанову аб тым, каб заключыць сацыялістычны дагавор.*

*Мы хутка склікалі збор атраду, прачыталі ваш ліст і выбралі спэцыяльны камітэт,*

якому даручылі весьці з вамі перапіску. Мы просім — прышлеце нам плян сваёй работы для азнаямленьня, а мы вышлем свой.

Адбітак вашага ліста мы адразу-ж зьмясьцілі ў насьценгазэце, каб кожны піанэр мог прачытаць яго. Калі вы атрымліваеце лісты ад замежных піанэраў, дык перадавайце іх таксама ў газэты, у часопісі для надрукаваньня. Няхай знаёмяцца дзеці Савецкага Саюзу з нашым жыцьцём.

Наш атрад з кожным днём расьце. За адзін толькі люты месяц наш атрад вырас да 20 чалавек.

Мы пашыраем дзіцячыя газэты, часопісі і піанэрскія значкі. А таксама працуем сярод неарганізаваных школьнікаў, арганізоўваем іх у атрады.

Вялікую дапамогу партыі аказвалі нашы піанэры у час выбараў прэзыдэнта. Мы пашыралі камуністычную літаратуру, якая заклікала працоўных галасаваць за кандыдатуру т. Тэльмана. Мы разносілі паведамленьні, прымалі актыўны ўдзел у кожнай дэманстрацыі.

Пішэце нам пра сваё жыцьцё: як вы працуеце у атрадзе? Як вучыцеся? Нам гэта цікава ведаць.

Мы пасылаем вам часопісь „Дзі Троммэль“ („Барабан“) і просім вас прышлеце нам свае піанэрскія значкі, а мы прышлем вам свае.

З піанэрскім прывітаньнем

ГАНС ЭЛЬФРЫД.
АЛЬФРЭД ШМІДТ.

Hans Elfriede

Alfred Schmidt.

ПІАНЭРЫ І АКЦЯБРАТЫ—ТАВАРЫШЫ ДЗЕЦЯМ ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СЬВЕТУ




Маленькі Марко стараўся быць такім, як бацька: бацька хадзіў цьвёрдымі шырокімі шагамі,—і Марко хадзіў цьвёрдымі шырокімі шагамі. Бацька, калі штонебудзь гаварыў, падымаў правую руку і нібы біў паветра. Гэтак-жа стараўся рабіць і Марко. Бацька хмурыў бровы і тады яны зьбягаліся ў яго на пераносіцы, — і Марко хмурыў бровы. Але бровы ў Марко былі сьветлыя і рэдкія, іх бадай што і ня відаць было, і зусім не зьбягаліся яны на пераносіцы.

Бацька часта і многа чытаў. І Марко таксама многа чытаў.

Рабочы пасёлак, дзе яны жылі, называўся „Касар" Гэта сэрбскі пасёлак, недалёка ад сталіцы Югаславіі—Белграда.

Марко быў сэрб. Бацька яго быў простым рабочым Але дырэктар фабрыкі прагнаў бацьку з работы. Можа ён не спадабаўся дырэктару, што вельмі часта хмурыў

бровы, бо калі ён хмурыў бровы, адразу відаць было што ён зусім ня хоча слухаць дырэктара і другіх яго прыганятых. Вось чаму гаспадар і выгнаў яго. Вось чаму ён сядзеў дома, калі на фабрыцы працавалі рабочыя. Але ён не заўсёды сядзеў дома; ён быў партыйны работнік і працаваў адразу на многіх фабрыках у суседніх пасёлках. Толькі не каля варштата, канешне.

Марко вельмі любіў такія дні, калі бацька яго аставаўся дома.

Іншы раз бацька садзіў Марко поплеч з сабою і апавядаў яму, што такое партыя, што такое партыйная работа.

Марко ня зусім разумеў, а шмат што разумеў пасвойму.

Добра зразумеў Марко толькі тое, што камуністычная партыя змагаецца з буржуазіяй, стаіць за рабочых і бедных сялян. І яшчэ ён зразумеў, што камуністаў за гэта садзяць у турму.

Бацька сёньня, здавалася, часьцей хмурыў бровы. Многа хадзіў, па пакоі ўзад і ўперад. Потым папрасіў у жонкі шклянку кавы і выпіў яе адным глытком.

К 12 гадзінам бацька сабраўся і вышаў з дому.

Марко ўзяў сваю вопратку і таксама вышаў на вуліцу. Бацька ішоў праз пасёлак шырокімі шагамі: раз-два, раз-два! Марко-ж стараўся патрапляць сьледам.

Яны падыходзілі да фабрыкі. З вялікіх варот выходзілі рабочыя. Мусіць, быў перапынак. Яны ішлі, апусьціўшы рукі, якія маталіся, нібы няжывыя. Было лета, было горача.

Бацька спыніўся недалёка ад варот. І ён аб нечым гаварыў з маладым высокім рабочым. Потым яны абодва пайшлі ў бок дарогі, туды, дзе будаваўся высокі цагляны дом.

Марко дзівіўся. Народ ішоў ды ішоў, а кругом было ціха. Вельмі нават ціха. Потым раптам пачуўся голас

бацькі. Голас гучаў звонка і выразна,— жалезны ліст так зьвініць, калі падае. У Марко дух захапіла: адзін чалавек гаварыў, а гэтулькі людзей сабралася слухаць.

Потым пачалі падыходзіць рабочыя з другой фабрыкі. Яны ішлі ды ішлі і, здавалася, канца-краю ня будзе гэтаму паходу.

І чым больш прыбывала людзей, тым выразьней зьвінеў голас бацькі. Марко слухаў з захапленьнем. Апрача голасу бацькі ён болей нічога ня чуў.

Бацька гаварыў пра СССР, дзе ўлада ў руках рабочых і сялян, гаварыў пра тое, як жывуць рабочыя ў гэтай краіне: яны будуюць новыя вялізарныя фабрыкі заводы.

Марко слухаў бацьку і глядзеў на людзей. Бацька перадыхнуў. Рабочыя цясьцей акружылі яго, і тысяча вачэй глядзела на яго.

„Як яны на яго глядзяць!“ —падумаў Марко. І толькі ён падумаў, як раптам пачуўся тупат конскіх капытоў, і сэрбскія жандары на гладкіх, добра дагледжаных конях урэзаліся ў рабочых.



*Пачалі падыходзіць рабочыя з другой фабрыкі.*

Марко запомніў бліскучыя грывы коняй, нацягнутыя павады; над імі— рукавы жандарскіх мундзіраў...

Людзі падаліся, раскалоліся пад націскам коняй на дзьве часткі. Бацька Марко цяпер быў у гурце.

Бацька Марко прышоў дахаты пад вечар. Ён памыўся, скінуў пінжак і падышоў да акна. Акно выходзіла ў вельмі маленькі



*Марко стаяў каля дрэва і падымаў руку ўверх.*

закрыты з усіх бакоў сад. У садзе ён убачыў сваго сына Марко.

Марко стаяў каля дрэва і падымаў руку ўверх. Ён нібы біў ёю паветра. Перад Марко стаяў гурт дзяцей, яго таварышы. Дзяцей было ня так і многа, але Марко

гэты гурт здаваўся ня меншым, чым той, што слухаў бацьку.

Бацька пачаў слухаць, схаваўшыся за фіранку, каб яго ня ўбачылі. Ён пачуў звонкі голас Марко. Марко апавядаў дзецям пра тое, што чуў сёньня раніцай, калі стаяў сярод фабрычных рабочых. Дзеці шчыльней акружалі яго. Яны ня спускалі вачэй з Марко.

Хлоп, хлоп, хлоп!

Што гэта? Можа, і сюды ляцяць на конях жандары?! Не...

Усе аглянуліся на акно. Там стаяў бацька Марко. Ён не сьмяяўся, але ў яго быў рэдасны твар. Ён стукаў у ладкі і глядзеў на Марко.

Потым ён прышоў у сад, стаў сярод дзяцей і сказаў:

— Дзеці, я думаю, што мы арганізуем таварыства маленькіх прыхільнікаў СССР. Хочаце?

Многія дзеці закрычалі:

— Хочам! Хочам!

— Марко,—сказаў бацька.—Нясі сюды скарэй твой чырвоны карандаш і кавалак паперы.

Марко забыўся, што яму трэба было хадзіць вялікімі шырокімі шагамі. Ён кінуўся бягом і прынёс чырвоны карандаш і ліст белай паперы.

— Запісвай, Марко, хто хоча ўступіць у таварыства,—сказаў бацька. — Гэта будзе першае ў Югаславіі таварыства маленькіх прыхільнікаў СССР. А з таварыства потым вырасьце зьмена для камуністычнай партыі. Цяпер, Марко, ты ўжо маленькі партыйны работнік...—дадаў ён.

# Трусы

Верш дзяткора М. КАЛАЧЫНСКАГА

Эх, якія трусікі!
(У мяне іх шэсьць).
Беленькія вусікі,
Беленькая шэрсьць.

Кожнай раніцою
Я трусом нясу
Мерачку з вадою,
Місачку аўсу.

Прынясу я трусікам
Смачнае яды.
Прынясу для беленькіх
Чыстае вады.

Будуць яны есьці,
Есьці смакаваць,
Прыбываць у шэрсьці,
Целам прыбываць.

Падрастуць-жа трусікі—
Здам іх у атрад.
Будзем гадаваць там
Шустрых трусянят.



# Чужаземец

Апавяданьне Я. МАЎРА

Малюнкі ПАШКЕВІЧА

Кіру здавалася, што лета ў гэтым годзе ніколі ня скончыцца, і восень ніколі ня прыйдзе. Ды і як-жа-ж ня было яму чакаць восені, калі ён сёлета павінен быў паступіць у „сапраўдную“ школу.

Да гэтага часу ён хадзіў у дзіцячы сад, а цяпер павінен быў хадзіць у нулявую групу пры школе. Школа вялікая—вялікая, а вучняў там сотні, а можа і тысячы. А можа і мільёны? Хто іх там ведае, якая лічба больш падыходзіць.

А сярод вучняў ёсьць вялікія, дарослыя, нібы дзядзькі якія ці цёткі. Разам з імі, у тую самую школу, будзе хадзіць ён, Кіра. Як жа-ж было не чакаць гэтага часу?

Калі-ж час прышоў, і Кіра паступіў у школу, дык застаўся крыху нездаволены: нулявая група была вельмі падобная да дзіцячага саду. Тыя самыя маленькія крэслы, столікі, а ня парты, як у іншых групах. І заняткі не такія, як у старэйшых групах.

Ну, ды гэта нішто. Затое Кіра бачыў тую „сапраўдную“ клясу, дзе ён будзе вучыцца ў наступным годзе, калі пяройдзе. А перайсьці ён павінен абавязкова, бо ўжо цяпер ён умее лепш чытаць і пісаць як яго таварышы.

Толькі вось крыўдна, што ў хуткім часе ўсе пачалі зваць яго —„чужаземец“.

Аднаго разу сама настаўніца назвала яго „чужаземцам“. Назвала, ласкава, нават з пашанай—і Кіру зусім ня было крыўдна. А вось гэты нягодны Пузік дык гыркае, нібы сабака:

— Чужаземец! Чужаземец!

Ды яшчэ торкае пальцам. А часам нават і язык яшчэ пакажа.

Паскардзіўся раз Кіра бацьку, што яго ў школе дражняць „чужаземцам“. Але бацька толькі засьмяяўся і сказаў:

— Ну і добра. Нічога крыўднага тут няма.

Кіра і сам лічыў, што слова гэтае і ня крыўднае. Але што ты зробіш, калі гэты пагане Пузік пачне дражніцца:

— Чужаземец! Чужаземец! Немец, француз, кітаец! Чаго ты да нас прыехаў? Паяжджай у Кітай.

Пачула аднаго разу такія словы настаўніца, раззлавалася і цэлую гадзіну гаварыла ў клясе:

— Што гэтае такое, дзеці? Я чула, што некаторыя з вас словы „чужаземец, немец, кітаец“ ператварылі ў нейкую лаянку! Ніколі ня думала, што сярод вас знойдуцца такія несьвядомыя, нядобрыя дзеці. Даўно ў нас мінулі такія праклятыя часы, калі буржуі цкавалі адзін народ на другі, а самі панавалі над тымі і над гэтымі. Здараецца, што мы можам назваць чалавека манюкай, злодзеем, гультаём, калі той робіць дрэнна. Але як жа-ж ператвараць у лаянку словы „немец, кітаец, беларус, паляк“ і г. д., калі сярод іх ёсьць нашы браты—рабочыя. Гэта-ж сорам, ганьба!

Доўга яшчэ казала настаўніца, а дзеці выкрыквалі:— Гэта ня я! Ня я!.. Нават Пузік засароміўся і сядзеў чырвоны як рак.



*Нулявая група была вельмі падобная да дзіцячага саду.*

Але чаму-ж гэта Кіру назвалі „чужаземцам“?

А таму, што ён часта прыносіў чужаземныя кніжкі, часопісі, малюнкі.

Сёньня ў яго нямецкая часопісь з вялікімі малюнкамі. Заўтра бачаць у яго руках ангельскую кніжку, бліскучую, на тоўстай паперы. Праз некаторы час Кіра разглядае французскую кніжку з цікавымі малюнкамі.

Аднаго разу ён прыцягнуў японскую ці кітайскую газэту з такімі дзіўнымі знакамі, што не разьбярэш, ці літара гэта, ці малюнак.

Цікавіліся гэтымі кніжкамі ня толькі Кіравы таварышы, але і сама настаўніца, старэйшыя вучні, настаўнікі з іншых клясаў. Яны ўсе нават больш цікавіліся, як Кіравы сябры...

— Адкуль ты бярэш такія кнігі?—пыталіся яны.

— У бацькі.

— А дзе ён працуе?

— На фабрыцы „Штурм“.

— Інжынэрам?

— Не, рабочым.

— Няўжо-ж ён можа чытаць усе гэтыя кнігі?

— Ня ведаю,—адказвае Кіра.

— Адкуль ён іх бярэ?

— Прысылаюць па пошце.

Усе настаўнікі вельмі зацікавіліся гэтай справай і самі назвалі Кіру „чужаземцам". Яны часта прасілі Кіру пазычыць тую ці іншую кнігу на некалькі дзён, і Кіра ганарыўся гэтым.

Калі Кіра ўбачыў, што ўсе цікавяцца гэтай справай, ён і сам пацікавіўся запытацца ў бацькі:

— Хто табе прысылае гэтыя кнігі?

— Таварышы рабочыя.

— Адкуль?

— З розных краін. З усяго сьвету.

— Адкуль ты іх ведаеш?

— Пазнаёміўся праз газэты.

— А ці ты ўмееш чытаць усе гэтыя газэты і кнігі?

— Не. Але мы ўсе ведаем адну агульную мову— эспэранто. На ёй і перапісваемся. Вось падрасьцеш—і ты вывучыш яе. Бонэ?—усьміхнуўся бацька і пляснуў Кіру па плячы.

Кіра хацеў ужо спытацца, што гэта за слова такое „бонэ", але бацька зараз-жа дадаў:

— „Бонэ" -па-нашаму „добра". Старайся ўжо цяпер вывучыць некаторыя словы, спатрэбяцца.

Але нельга сказаць, каб Кіра цікавіўся чужаземнымі словамі, ён толькі цікавіўся малюнкамі.

Вось аднаго разу прышла такая кніжка, дзе былі толькі адны малюнкі. У кніжцы былі кавалкі празрыстай чырвонай і сіняй паперы. І калі паглядзіш праз гэтую паперу на малюнак, дык убачыш зусім ня тое, што на ім намалёвана,—убачыш зусім іншы, новы малюнак.

— Як цікава!—захапіўся Кіра.

— Гэта табе прыслаў твой таварыш, — сказаў бацька.

Які таварыш?—зьдзівіўся Кіра.

— Маленькі Морыц з Гамбургу. Вось ён,—і бацька паказаў фатаграфію хлопчыка, такога-ж узросту, як і Кіра.

Адзеты ён быў, як дарослы: пінжак з кішэнямі, белы каўнер з гальштукам; толькі штонікі кароткія.

— Адкуль жа-ж ён мяне ведае?—дзівіўся Кіра.

— Ды мы з яго бацькам пісалі адзін аднаму, што ў нас ёсьць аднолькавыя хлапцы. Вось ён і пазнаёміў вас. Цяпер, брат, і табе прыдзецца зьняцца ды паслаць у Германію сваю картку ды яшчэ які-небудзь падарунак.

Кіра саскочыў з крэсла.

— Хадзем, тата, здымацца. Я хачу паслаць картку зараз-жа.

- Пачакай, пачакай, пасьпееш! - стрымаў бацька.— Падумай яшчэ, які падарунак ты можаш паслаць. Вось ён тут табе і напісаў нешта.

На кніжцы дзіцячымі крывулямі было напісана:

„Al cara camarado Kira de Moric“.

Пачаў быў чытаць Кіра, але нічога не разабраў.

Не магу прачытаць,— сумна сказаў Кіра.—Неяк ня так напісана.

— Напісана яно так, толькі па-эспэранцку: **„Дарагому таварышу Кіру ад Морыца“.**

— А як-жа я яму напішу? - сказаў Кіра. — Я ня ўмею так пісаць.

— Ды, мусіць, і ён ня ўмее. Пэўна бацька напісаў на паперцы, а ён сьпісаў. І мы пакуль што таксама зробім. А пазьней вы і самі навучыцеся.

— А хто ён такі, хто яго бацька?

— Бацька рабочы на заводзе, дзе будуюцца караблі. Але ў гэтым лісьце якраз піша, што застаўся без работы. Усюды заграніцай зачыняюцца фабрыкі, і рабочыя застаюцца бяз працы.



*Бацька забіты фашыстамі..*

— Чаму так?—зацікавіўся Кіра.

— Таму, што фабрыкі і заводы належаць паасобным капіталістам. А кожны з іх ня думае аб агульнай карысьці, а дбае толькі аб сабе. А калі кожны дбае толькі аб сабе, дык ніколі дабра ня будзе.

Некалькі дзён Кіра быў вельмі заклапочаны, што паслаць далёкаму незнаёмаму таварышу? Так хацелася пацешыць яго, зрабіць што-небудзь прыемнае. З фатаграфіяй Кіра не разлучаўся, часта глядзеў на яе — яму пачало здавацца, што ён гэтага хлопчыка ведае даўно і любіць, як брата.

Вядома, паказваў кніжку і фатаграфію ў школе. У клясе ўсе зайздросьцілі, што Кіра завёў сяброўства з замежным хлопчыкам. Нават Пузік сказаў:

— Эх, каб і мне мець замежнага таварыша!

Усёй клясай пачалі абмяркоўваць і раіць Кіру, які падарунак пасладь Морыцу. Колькі-ж прапаноў было! І мадэль трактара, і розныя свае малюнкі, і кніжкі, і чырвоны сьцяг, і вершы. Але найлепшай прапановай было паслаць акцябрацкую зорку і партрэт маленькага Леніна.

Нарэшце, прышоў дзень, калі Кіра ужо мог паслаць сваю пасылку—фатаграфію, зорку і патрэт.

— Бацька напісаў на паперы:

„Al cara kamarado Moric de Kira"

і гэтыя словы Кіра прачытаў на сваёй фатаграфіі.

— Напішы яму, тата, каб хутчэй адказаў,—папрасіў Кіра.—Хай запішацца ў акцябраты і носіць зорку.

— Нешта ня чуў я, каб там былі акцябраты, — сказаў бацька.—Піанэры ёсьць, але і іх буржуі прыціскаюць.

— А калі можна чакаць адказу?—запытаўся Кіра.

— Можа тыдні праз тры, можа і два, калі зараз-жа адкажуць.

Дзень за днём лічыў Кіра, калі пройдуць два тыдні. Яшчэ з большай нецярплівасьцю чакаў трэці тыдзень.

— Можа ліст загінуў? Спытайся, татка, напішы,— прасіўся Кіра.

— Пачакай, пацярпі,—сказаў бацька.

Мінуў месяц, другі, а адказу ўсё няма. Нарэшце, бацька напісаў другі ліст, але і на яго ня было адказу.

— Мусіць, выехалі куды з Гамбургу шукаць працы,— сказаў бацька.—Відаць няма калі ім думаць аб перапісцы.

— Як-жа шкадаваў Кіра! Гэтак цікава было весьці сяброўства з замежным таварышам, і нічога з гэтага ня вышла.

— Калі-ж мінула паўгода, Кіра бадай што забыўся пра ўсю гэтую гісторыю.

І вось аднаго разу прышоў з Германіі запэцканы ліст, а ў ім пісулька:

Паглядзеў бацька на гэты ліст і паківаў галавою:

— Што гэта такое? Нібы табе, Кіра, нібы ад твайго таварыша Морыца, але палавіна слоў эспэранцкіх, а палавіна нямецкіх, якіх я не разумею. „Бацька... маці... адзін...“ Відаць, нешта здарылася. Пайду да суседа, студэнта, хай ён разьбярэ нямецкія словы.

Студэнт сказаў, што і нямецкія словы напісаны з памылкамі, а эспэранцкіх ён ня ведае. Але ўдвох яны, нарэшце, разабраліся і атрымаўся наступны ліст:

**Дарагі таварыш Кіра.**

**Бацька забіты фашыстамі. Маці памерла. Я адзін. Вельмі, вельмі дранна.**

**Морыц Кольман.**

Калі бацька прачытаў Кіру гэтыя словы, дык хлопчык расплакаўся.

— Бедны Морыц... Шкада яго... Трэба дапамагчы. Тата, вазьмі яго да нас. Ён адзін.

Бацька панурыўся.

— Вядома, шкада,—прамовіў ён.—Але як дапамагчы? Як яго возьмеш?

— Пашлі грошы. Хай прыяжджае.

Бацька толькі ўсьміхнуўся.

Ня так гэта проста, як табе здаецца. Але ў кожным разе трэба падумаць.

Аднак думаць доўга ня прышлося.

Яшчэ тыдзень назад на завод, дзе працаваў Кіраў бацька, была прыслана прапанова вылучыць лепшага ўдарніка для паездкі заграніцу.

Кіраў бацька якраз быў адзін з лепшых ударнікаў і вельмі спадзяваўся, што выберуць яго.

Так яно і здарылася. Ах, як хацеў Кіра ехаць разам з бацькам!

Але бацька казаў:

— Нельга табе. Нас з усіх заводаў СССР едзе 300 чалавек. Калі кожны захоча ўзяць яшчэ сваіх дзяцей, што-ж тады будзе? Пацярпі, сам прывязу. А вырасьцеш, будзеш добрым ударнікам, тады і сам паедзеш заграніцу.

Калі настаўніца ўвайшла ў клясу, дык заўважыла, што вучні неяк хітра перамігваюцца і пазіраюць то на яе, то на той кут, дзе сядзеў Кіра.

— Чаго вы?—запыталася настаўніца.

— А ў нас госьць ёсьць!—закрычалі дзеці.

— Які госьць? дзе?

— А вунь там.

Толькі цяпер настаўніца разгледзела, што каля Кіры сядзіць нейкі хлопчык і ўсьміхаецца. На грудзёх яго была прышпілена акцябрацкая зорачка.

— Адкуль ты?—спыталася настаўніца.

Той нібы і ня чуе. Сядзіць, усьміхаецца і пазірае на дзяцей.

— Адкуль ты? Як цябе завуць? — спыталася настаўніца зноў.

Хлопчык таксама сядзіць, пазірае на дзяцей і ўсьміхаецца. Дзеці ў рогат.

— Што гэта за жарты?—узлавалася настаўніца і падышла да хлопчыка.

— Як ты сюды трапіў? Як цябе завуць?

Хлопчык устаў і весела пазіраў то на настаўніцу, то на дзяцей.

— Што ён, нямы, ці што зьдзівілася настаўніца. Дзеці яшчэ больш зарагаталі.

— Ну, як цябе завуць?—зноў спыталася настаўніца.

— Морыц!—крыкнуў нехта з вучняў.

— Кольман!—дадаў другі.

- Ja, ja. Moric Kohlman. (Але, але, Морыц Кольман),—адказаў хлопчык.

— Што ён, немец?—зьдзівілася настаўніца?—Адкуль? Якім чынам?

— З Гамбургу, прыехаў да мяне, сказаў Кіра з гонарам.

— Ja, ja, aus Hamburg! (Так, так, з Гамбургу).—паўтарыў Морыц.

Уся школа зацікавілася госьцем. Увесь дзень толькі і гутаркі было, што аб ім. Кіра сотню разоў павінен быў расказваць гісторыю свайго замежнага сябра.

Затое ў гэты дзень ён адчуваў сябе самай важнай асобай пасьля Морыца.

Морыц пагасьціў у Кіры месяц, а пасьля паехаў у Маскву, у дзіцячы дом, дзе выхоўваецца яшчэ шмат такіх дзяцей замежных рабочых, забітых фашыстамі.

Цяпер Морыц піанэр і перапісваецца з Кірам увесь час.



# Пасека

Верш М. ЛУЖАНІНА *)
Мал. Е. САМАТЫЯ

Зьбіраць мёд цяжка.
Зьесьці—
ня ўгледзіш.
На мёд так-жа
Ласы мядзьведзі:
паверне вулей,
падушыць пчол
і памуляў,
і пайшоў.

Пчолы бароняцца,
хоць і бяз коньніцы,
хоць без пяхоты,
але і праз год ты
ўспомніш пра мёд той.

На пасецы ўпарта
лятае варта.

Зброю трымае,
а зброя тая,—
ні многа, ні мала—
джала.
Джгне —
дзеці ў енк.

*) Канец. Пачатак глядзі ў № 17.

І не агледзішся—
бягуць мядзьведзіцы,
лятуць медзьвяняты
лячыцца дахаты.

Пчолы—шэльмы
ў нос цялі...

Хоць ня вельмі,
а баліць.

Мы хочам мёду:
бяром вёдры,
бяром куродым,
на твар рашотку.

— Трымайся, цёткі!
Крыху выразаем,
крыху пакідаем.

Мёду—стос тут.
Есьці—нельга:
У ім воску
Многа вельмі.

Каб да ладу
мёд ачысьціць,
ёсьцъ прылада—
мёдачыстка.

Мы з Міколам
круцім кола:
капае мёд,
пусьцее сот,
а як выцеча ён,
потым,
будзе новая работа.
Хлеб кроім,
мёд мажам:
— Еж, Роня!
— Еж, Лукашык!
Цьвіцеце вочкамі,
дужэйце на целе,
дзяўчаткі і хлопчыкі,
савецкіх паселішч!
Бяжэце ў хаты,
скажэце татам:
— Ты хочаш, каб мёд быў?
Памагай пчалаводам,
памагай калгасьнікам,
што робяць пасекі.
Цяпер, значыцца,






успомнім, што бачылі:
пчолы зьбіраюць мёд,
нясуць у вулей,
кладуць у сот.
Мёд той —
з салодкіх кветак.
Вось гэтак.
Сот растопіш —
будзе воск.
Ён дае падлозе лоск,
ён патрэбен на заводах,
ён патрэбен у паходах.
Ну, а мёд вы самі елі,
значыць, добра
зразумелі.

# АГОНЬ

Бывае, скажа бацька ці маці каторому з вас: „запалі, сынок, або ты, дачушка, агонь“ і вы зараз-жа бярыце каробку з запалкамі, дастаіцё адтуль запалку, шоргаеце ёю аб каробку і—ёсьць агонь: вы просьбу бацькі выканалі.

А ці задумаўся хто з вас хоць раз аб тым, як-жа некалі здабывалі агонь, калі ня было запалак? Запалкі якімі мы карыстаемся цяпер, зьявіліся ня так даўно—ім каля 100 гадоў.

А як-жа здабывалі агонь тысячы гадоў таму назад?

Тысячы гадоў таму назад людзі жылі без агню—яны ня ўмелі здабываць яго, яны ня ведалі карысьці ад цяпла, сьвятла.



ВУЛЬКАНЫ ВЫКІДАЛІ ВОГНЕНУЮ ЖЫЖКУ

Агонь чалавек убачыў у розных мясцовасьцях па-рознаму. Адны ўбачылі яго тады, як гарачыя вулканы выкінулі з нутра зямлі вогненую жыжку; другія—як маланка запаліла агнём дрэва...

Спачатку чалавек баяўся агню, як грому ці маланкі. Пасьля мала-па-малу пачаў прывыкаць к агню, пачаў выкарыстоўваць яго для сваіх патрэб.

У тыя далёкія часы чалавек займаўся паляўніцтвам на зьвяроў. Іх мяса ішло на яду, а скуры на вопратку. Чалавек наглядаў, як зьвяры ўцякалі

ад агню і ён абрадаваўся, што новы від зброі прышоў яму на дапамогу. Бо тады ня было яшчэ пораху, шроту. У хуткім часе людзі сталі скарыстоўваць агонь, як зброю. Яны хапалі гарачыя галавешкі і гналіся за зьвярамі, а тыя, уцякаючы, набягалі на засаду людзей, якія забівалі іх каменьнямі, каламі.

А калі людзі пераходзілі з аднаго месца на другое— яны бралі з сабою агонь і берaглі яго.

Пазьней ужо, праз тысячы гадоў, людзі сталі здабываць агонь з дрэва. Яны знайшлі такі спосаб зусім выпадкова: церлі палена аб палена, а яно загаралася. Гэты спосаб здабычы агню быў найбольш пашыраны ў людзей.



Чалавек цёр палена аб палена, пакуль не зьяўляўся агонь.

Пазьней людзі знайшлі новы спосаб: яны выкрэшвалі іскры з крэменю, а тыя, трапіўшы ў парахню, запальвалі яе.

Вось бачыце, як некалі цяжка было здабываць агонь. Таму людзі ў тыя часы шанавалі агонь, як каштоўны скарб. Агонь хаваўся ў бажніцах, адкуль бралі яго, калі ў каго-небудзь згасаў. Па нашых вёсках курцы яшчэ ня так даўно насілі з сабою ў кішэні крэсіва, крамушкі і кнот, а гаспадыні берaглі агонь у пячурках. Гэты спосаб здабычы і захоўваньня агню дайшоў да нас ад першабытнага чалавека.

Першабытныя людзі здабывалі агонь шараваньнем аднаго драўлянага кіёчка аб другі. Мы таксама здабываем агонь шараваньнем запалкі аб карабок.

Але запаліць запалку кожны з вас, дзеці, здолее, а каб здабыць агонь з дрэва, трэба быць дужаму, бо работа гэта вельмі цяжкая.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА. А. ЯКІМОВІЧ.

# Піанэрская песьня



Музыка КРАСЕВА



МЫ ЦЬВЁР-ДА ПОМ-НІМ ЗА-КОН НАШ ТРЭ-ЦІ, МЫ



БУ-ДЗЕМ ПОМ-НІЦЬ Я – ГО ЗАЎЖ – ДЫ.

УВЕСЬ ХОР



ВАМ ПРЫ-

ВАМ ПРЫ – ВІ – ТАНЬ – НЕ, НЯ-



ВО-ЛІ ДЗЕ-ЦІ, З КРА-І-НЫ ПРА-ЦЫ І БА-РАЦЬ-БЫ.

Мы цьвёрда помнім
Закон наш трэці,
Мы будзем помніць
Яго заўжды.
Вам прывітаньне,
Няволі дзеці,
З краіны працы
І барацьбы!

Шагайце дружна
Вы з намі ў ногу,
Гартуйце сілу
Ў сваіх радох.
Вам паказала
Цяпер дарогу
Краіна працы
І перамог.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2316. 2800 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—5.